# Васіль Супрун



Васіль Супрун жыў побач са мной на адной Брэсцкай вуліцы ў Слоніме. Таму я яго сустракаў амаль кожны дзень: то ідучы ў краму, то ён ехаў на дачу, то кудысьці спяшаўся на сустрэчу. Пры спатканнях Васіль Рыгоравіч стараўся гаварыць мала, ён больш любіў слухаць, а потым адным сказам ціха падводзіў вынікі ўсёй гутаркі. Ён да самай смерці быў асцярожным і маўклівым. Але я стараўся яго трохі разварушыць і гучна пытаўся: “Як справы, Васіль Рыгоравіч, чым займаецеся, над чым працуеце?”.

– Вось сонейка выглянула вясновае, дык на дачу еду, варушуся там крыху. Цяжка ўжо працуецца ў маім узросце, не хапае сіл і здароўя, каб працаваць, пісаць. Хоць жаданне зрабіць тое-сёе яшчэ ёсць, – заўсёды з лагоднай усмешкай, але ціха адказваў ён. Заўсёды інтэлігентны, шляхетны, быццам не з сялянскай сям’і выйшаў шукаць вольную ад паноў і таварышаў беларускую Беларусь. Ён моцна перажываў за Беларусь, казаў, што сёння ў нашай апазіцыі не хапае самаахвярнасці. А без гэтага – мы ніколі не пераможам.

Чаму ён так казаў, таму што сам са сваімі равеснікамі ў 1946 годзе стварыў патрыятычную антысталінскую арганізацыю “Чайка”, удзельнікі якой жылі ў Слоніме, Баранавічах, Навагрудку, Пінску і ў іншых гарадах, а таксама мястэчках. За гэта ён быў пакараны 25 гадамі зняволення.

Пра “Чайку” мы даведаліся толькі ў канцы 1980-х гадоў. Да гэтага часу ён нам ніколі нічога не казаў пра антысавецкае падполле. Калі выйшаў у 1956 годзе годзе на волю і праз год вярнуўся на родную Слонімшчыну, быў пазбаўлены магчымасці працаваць настаўнікам, хоць меў педагагічную адукацыю: скончыў Слонімскую настаўніцкую семінарыю і Ганцавіцкае педагагічнае вучылішча. Настаўнікам працаваць не дазволілі, і Васіль Супрун мяняў заняткі і прафесіі. Працаваў спачатку будаўніком у роднай вёсцы, быў тэхнікам-будаўніком у СПТВ у Слоніме, а потым у пошуках заробку выехаў у Крым, дзе знайшоў працу праекцiроўшчыка ў падводным марскім клубе ДТСАФ СССР. Працуючы далёка ад Беларусі, паступіў на гістарычны факультэт БДУ, які завочна скончыў у 1969 годзе.

Калі вярнуўся з Крыма на Радзіму, то зноў пайшоў працаваць на будоўлю. Адначасова займаўся ў вольны час археалагічнай разведкай і раскопкамі на Гродзеншчыне і Брэстчыне. Пасля пісаў пра гэта ў мясцовым друку, у часопісе “Помнікі гісторыі і культуры Беларусі”. Так і дажыў да пенсіі… Але гэта было пасля вяртання з ГУЛАГу, пасля 1957 года. А да гэтага была “Чайка”.

Напачатку 1946 года ў асяродку настаўніцтва і моладзі Слонімшчыны ўзнікла ідэя арганізаванага супраціву камуністычнаму руху і гвалтоўнай русіфікацыі Беларусі. З гэтай мэтай у пачатку траўня 1946 года ў Слоніме быў праведзены ўстаноўчы сход, на якім было прынятае рашэнне стварыць падпольную беларускую арганізацыю з канспірацыйнай назвай «Чайка», якая ставіла б сваёй мэтай змаганне за нацыянальныя правы і годнасць свайго народу, яго культуры, мовы, гісторыі і, урэшце, за свабоду і незалежнасць Беларусі. Арганізацыя не планавала займацца тэрорам, а індывідуальнай працай будзіць свядомасць беларусаў. Была прынятая праграма дзейнасці, асновы канспірацыі і абранае кіраўніцтва. У сходзе ўдзельнічалі Васіль Супрун (які быў абраны кіраўніком),

Міхась Ракевіч, Міхась Чыгрын, Алесь Гардзейка, Леакадзія Кавальчук і Ніна Карач (сакратар). У сувязі з няяўкай Ніны Карач на пазнейшыя нарады і парушэннем канспірацыі, дзяўчаты былі адхіленыя ад удзелу ў падполлі, зменены яўкі. Дарэчы, пазней Ніна Карач была асуджана на 10 гадоў. Яе забяруць ужо студэнткай Інстытута народнай гаспадаркі. І што цікава, бацька Ніны быў некалі засланы з Расіі ў Польшчу для навядзення прапаганды на карысць Саветаў. А дачка, як бачыце, вырасла свядомай беларускай.

З агульнай згоды сяброў Васілю Супруну было загадана заснаваць патрыятычнае падполле ў Баранавіцкім настаўніцкім інстытуце, Міхасю Ракевічу – у Брэсцкім чыгуначным тэхнікуме, дзе ён навучаўся, Міхасю Чыгрыну – у Жыровіцкім сельскагаспадарчым тэхнікуме, дзе ён у той час вучыўся, і Алесю Гардзейку – сярод моладзі Слонімшчыны. У хуткім часе патрыятычныя групы падполля былі створаныя і ў Баранавічах (з дапамогай Уладзіміра Салаўя – студэнта настаўніцкага інстытуту), у Брэсце, Жыровічах і ў іншых гарадах і мястэчках.

“Чайка” за нейкі месяц дзейнасьці выйшла далёка за межы Слонімшчыны, што патрабавала паглыбленай распрацоўкі праграмы і схемы ўнутранай будовы арганізацыі. А праз пэўны час узнікла і неабходнасць стварэння так званага Цэнтра Беларускага Вызваленчага Руху (ЦБВР), які павінен быў ажыццяўляць агульнае кіраўніцтва рухам. Кіраўніком Цэнтра быў абраны Васіль Супрун, намеснікам па арганізацыйна-палітычнай рабоце стаў Аляксандар Барэйка, а адказным за ваенізаваны рух – Міхась Ракевіч. Акрамя таго, дарадчымі членамі Цэнтра былі прызначаныя Мікалай Макарэвіч, ён жа – кіраўнік Брэсцкага абласнога падполля, Міхась Агейка – ад баранавіцкай інстытуцкай групы і Уладзімір Салавей – ад слонімскіх груп. Кантакты Васіля Супруна з А.Барэйкам і М.Ракевічам былі рэгулярнымі, з астатнімі членамі Цэнтра – пры неабходнасці.

Цэнтрам была прапанаваная так названая «колавая» схема кіравання. Ад Цэнтра мела адходзіць (акружаць яго) першае кола, гэта значыць, абласныя кіраўнічыя структуры, вакол якіх павінны размяркоўвацца раённыя групы – другога

кола, а вакол апошніх – перыферыйныя групы – трэцяе кола. Пры гэтым прапаноўвалася своеасаблівая схема канспірацыі і кансервацыі падполля. На пэўным этапе, калі нейкая тэрыторыя будзе арганізацыяй ахоплена, яна павінна быць закансерваваная да спрыяльнай палітычнай сітуацыі, пры якой па камандзе з Цэнтра павінна была быць гатовая да любых дзеянняў…

Але за беларускімі хлопцамі і дзяўчатамі пільна сачыла спецгрупа МДБ. І ў чэрвені 1947 года беларускіх патрыётаў пачалі арыштоўваць. Быў арыштаваны і Васіль Супрун. Амаль паўгода знаходзіўся ў баранавіцкай следчай турме «Крывое кола» і мінскай «амерыканцы». 21 лістапада 1947 Ваенны трыбунал войскаў МУС Беларускай акругі ў Мінску паводле артыкулаў 63-1 і 76 КК БССР (здрада радзіме і антысавецкая агітацыя) асудзіў Супруна на 25 гадоў пазбаўлення волі і 5 гадоў паражэння ў правах з канфіскацыяй маёмасці. Такім суровым быў прыгавор перш за ўсё за ўпартасць, нязломнасць, адмову нагаворваць на сябе і іншых, карацей – за характар, за тыя яго рысы, якіх берыеўцы не чакалі ад вясковага настаўніка, маладога народнаа інтэлігента, маладога беларуса.

Пакаранне Васіль Супрун адбываў у лагерах Інты і Варкуты. У зняволенні падтрымліваў тайную міжлагерную перапіску з беларускай паэткай Ларысай Геніюш:

Бачыш? Вялізныя шрамы па краю –
Лагеры, зоны, драты.
Там ні за што, як і мы, дагараюць
Нашы ў няволі браты.

Вершы з перапіскі Васіля Супруна і Ларысы Геніюш упершыню былі апублікаваныя ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва" вясной 1989 года. Іх публікацыя была тады вялікай падзеяй ў беларускім літаратурным жыцці. Аказалася, што Васіль Супрун усё жыццё пісаў вершы, найбольш патрыятычныя. А першы ягоны верш быў надрукаваны ў "Баранавіцкай газеце" яшчэ ў 1943 годзе. І толькі праз 50 гадоў дзяржаўнае выдавецтва "Мастацкая літаратура" выдала невялікі зборнічак вершаў Васіля Супруна пад назвай "Крык" з прадмовай прафесара Алега Лойкі. Вершы ў ім былі напоўненыя духоўнай

сілай і верай, нязломнасцю духа ды бясконцай любоўю да роднага краю:

Так, каб жыць, каб тварыць, каб змагацца, любіць,
Трэба ўмець супроць хваляў і гора
Непакорна плысці, сваё Заўтра знайсці –
Яно лепей, чым нашае ўчора.

Потым свет пабачылі яшчэ некалькі кніг вершаў і краязнаўчых артыкулаў Васіля Супруна. Яго прынялі ў Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Васіль Супрун быў вельмі таленавітым чалавекам. Ён умеў добра фатаграфаваць, маляваць, выдатна іграў на скрыпцы, любіў прыроду. Некалькі разоў ён звяртаўся ў вышэйшыя мінскія інстанцыі, каб яго рэабілітавалі, але так і не дачакаўся рэабілітацыі. Але для тых, хто ведаў Васіля Рыгоравіча, ён застаўся маральным аўтарытэтам назаўсёды:

Мы ж шлях свой адзначыць павінны
Трывалай прыкметай дарог,
Каб след на прасторах Айчыны
І час зацярушыць не змог.



*Васіль Супрун (стаіць крайні злева) у гасцях у Ларысы і Янкі Геніюшаў у Зэльве, 1950-я гг.*



# Уладзімір Сакалоўскі

Пра беларускага пісьменніка і перакладчыка Уладзіміра Сакалоўскага (1930-2013) прафесар Адам Мальдзіс неяк сказаў: “Я не ўяўляю сабе беларуска-нямецкія грамадска-культурныя, асабліва літаратурныя сувязі без прац Уладзіміра Сакалоўскага. Ён адкрыў многія іх факты, сістэматызаваў і абагульніў”. Да гэтых слоў я хачу яшчэ дадаць, што я, як зямляк Уладзіміра Лявонцьевіча, не ўяўляю Слонімшчыну без яго. Хаця асоба Уладзіміра Сакалоўскага даволі значная не толькі ў маштабах сваёй маленькай радзімы, але і ў маштабах усёй Бацькаўшчыны.

Здаецца, пазнаёміўся я з Уладзімірам Лявонцьевічам Сакалоўскім дзесьці ў сярэдзіне 1980-х гадоў. Тады якраз з друку выйшлі дзве яго арыгінальныя кнігі, якія адразу зрабілі даследчыка літаратуры вядомым і кампетэнтным знаўцам у галіне перакладу і нямецка-беларускіх сувязяў. Гэта былі кнігі “Пара станаўлення” і “Беларуская літаратура ў ГДР”. Іх літаратуразнавец мне даслаў у Слонім і я пра яго выданні напісаў добрыя словы ў мясцовым друку. Так мы пасябравалі.

Родам Уладзімір Сакалоўскі са слонімскай вёскі Мялькавічы. Бацька яго Лявонцій Аляксеевіч на вёсцы быў

даволі адукаваным чалавекам. Ён у свой час скончыў гімназію і некалькі курсаў Варшаўскага ўніверсітэта. Добра валодаў беларускай, польскай, рускай і нямецкай мовамі, ведаў таксама лацінскую і старажытна-грэцкую мовы, прымаў актыўны ўдзел у мясцовай філіі Таварыства беларускай школы (ТБШ). Так што прыклад Уладзіміру было з каго браць. Таму юнак з далёкай слонімскай вёскі таксама пайшоў у навуку, бо меў талент да замежных моў, да вучобы.

Пасля заканчэння факультэта замежных моў Гродзенскага універсітэта Уладзімір Сакалоўскі працаваў перакладчыкам ва Усходняй Германіі, потым выкладаў нямецкую мову ў Латвіі, працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы, пасля -- у Бонскім універсітэце. Побач з беларускай мовай у яго заўсёды была нямецкая. А асноўнай тэматыкай даследаванняў стала гісторыя развіцця і ўзаемадзеяння беларускай і нямецкай культур.

Ведаў даўно, што ў 1961 годзе ў Боне на нямецкай мове выйшла кніга Анджэя Цеханавецкага “Michal Kazimierz Oginski und sein Musenhof zu Slonim”. Кніга гэта ўнікальная, яна з’яўляецца адным з першых спецыяльных даследаванняў па гісторыі прыдворнага тэатра Беларусі, да таго ж напісаная аўтарам на невядомых раней архіўных матэрыялах. Доўгі час гэтае выданне было недаступным беларускім даследчыкам і простым чытачам. І толькі дзякуючы Уладзіміру Сакалоўскаму кніга Анджэя Цеханавецкага пабачыла свет і ў Беларусі. Першая выданне па-беларуску выйшла ў 1993 годзе і адразу хутка разышлося. Другое выданне з больш дапоўненымі каментарыямі ў перакладзе Уладзіміра Сакалоўскага з’явілася ў 2006 годзе. Кнігу мне перакладчык даслаў з аўтографам:”Дарагому сябру і земляку Сяргею Чыгрыну са Слоніма з ўдзячнасцю і павагай! На добры ўспамін… 28.04.06. Ад перакладчыка Уладзіміра Сакалоўскага”.

У апошні час беларускі вучоны і перакладчык вялікую ўвагу аддаваў даследаванню Беларусі ў перыяд Першай сусветнай вайны, а таксама Надзвычайнай місіі БНР у Нямеччыне. Справа ў тым, што адну з важных роляў у знешнепалітычнай дзейнасці Беларускай Народнай Рэспублікі адыграла Надзвычайная місія рэспублікі ў Берліне, якая на працягу

амаль сямі гадоў (1919-1925) у цяжкіх і складаных умовах годна прэзентавала Беларусь у Нямеччыне і доўгі час з'яўлялася адным з галоўных цэнтраў БНР па каардынацыі дзейнасці беларускіх дыпламатычных прадстаўніцтваў за мяжой. Вось гэты перыяд актыўна і грунтоўна даследаваў Уладзімір Сакалоўскі. Вялікі артыкул на гэту тэму ён апублікаваў у часопісе "Arche".

Усе кнігі, артыкулы, выступленні Уладзіміра Сакалоўскага немагчыма пералічыць. Ды й няма сэнсу. Усё зробленае ім трэба чытаць, даследаваць, аналізаваць. Працы яго – сур'ёзны ўклад у нашу айчынную гісторыю. Дарэчы, у апошнія гады жыцця мой зямляк пісаў і вершы.

20 чэрвеня 2013 года Уладзіміра Сакалоўскага не стала.



*Уладзімір Сакалоўскі з жонкай Галінай*
*і Сяргеем Панізьнікам, 2009 г.*

# Іван Чыгрын



Беларускі літаратуразнаўца, паэт, навуковец, кандыдат філалагічных навук Іван Чыгрын (1931- 2006) нарадзіўся ў вёсцы Чамяры каля Слоніма ў сялянскай сям'і. Пасля Чамяроўскай сямігодкі вучыўся ў беларускай сярэдняй школе № 1 г. Слоніма, якую скончыў у 1950 годзе. У гэтым годзе паступіў на філфак Белдзяржуніверсітэта. Калі атрымаў дыплом настаўніка, прыехаў на радзіму вучыць дзяцей роднай мове ў Яварскай школе Дзятлаўскага раёна і ў Кракоцкай сярэдняй школе на Слонімшчыне.

У 1958 годзе Іван Чыгрын стаў аспірантам Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук Беларусі і з 1961 года да пенсіі працаваў у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. У 1968 годзе чамяравец абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму “Станаўленне беларускай прозы і фальклор. Дакастрычніцкі перыяд.” Асобнаю кнігаю гэтая праца пабачыла свет у 1971 годзе. У ёй Іван Чыгрын упершыню ў беларускім літаратуразнаўстве прасачыў працэс станаўлення беларускай прозы ў яе ўзаемаадносінах з мастацкім вопытам фальклору. У цэнтры ўвагі даследчыка былі праблемы ўзаемадзеяння твор-

чых метадаў прафесійнай прозы і прозы народнай, а таксама пытанні кампазіцыі, сюжэта, мовы, стылю. Наогул, Іван Чыгрын шмат гадоў даследаваў узаемадзеянне фальклору і творчасці Ядвігіна Ш., Якуба Коласа, Максіма Гарэцкага, Кузьмы Чорнага, Міхася Зарэцкага, займаўся тэксталогіяй, склаў хроніку літаратурнага жыцця Беларусі, якая ўвайшла ў "Гісторыю беларускай літаратуры" (1968). Падрыхтаваў і выдаў асобнымі кнігамі выбраныя творы Ядвігіна Ш., Янкі Купалы, пісьменнікаў "Маладняка" "Веснаход" і іншыя.

У сярэдзіне 1980-х гадоў з друку выйшлі дзве манаграфіі Івана Чыгрына "Проза "Маладняка". Дарогамі сцвярджэння" і "Крокі: проза "Узвышша". У першай кнізе аўтар даследаваў праблемы развіцця беларускай прозы 20-х гадоў ХХ стагоддзя. Найперш, гэта пытанні тыпізацыі, мадэлявання жыцця ў канкрэтнай, маладнякоўскай прозе, пытанні пашырэння тэматычных абсягаў, сцвярджэння прыгодніцкага і рамантычнага напрамкаў. На матэрыяле творчай спадчыны сяброў літаратурнай арганізацыі "Узвышша" Іван Чыгрын даследаваў у другой сваёй кнізе праблемы мастацкага стаўлення маладой беларускай прозы, у прыватнасці прозу Кузьмы Чорнага, Лукаша Калюгі і Андрэя Мрыя. Яшчэ адна манаграфія "Рэальнае і магчымае: проза Якуба Коласа" (1991) Івана Чыгрына была прысвечана праблеме мастацкай эвалюцыі творчасці класіка беларускай літаратуры Якуба Коласа. Аўтар паказаў шляхі эпічнага станаўлення пісьменніка ў жанры рэалістычнага апавядання, філасофска- алегарычнай прозы і ў жанры рамана.

У 1994 годзе літаратуразнавец выдаў кнігу "Паміж былым і будучым", прысвечаную даследаванню шляхоў станаўлення творчай індывідуальнасці класіка беларускай літаратуры Максіма Гарэцкага. Як бачыце, нядрэнна працаваў на службе літаратуразнаўства пісьменнік з Чамяроў. Але гэта яшчэ не ўсё. Іван Чыгрын быў яшчэ цікавым і самабытным паэтам. Ён выдаў шэраг зборнікаў вершаў. Сярод якіх – "Капеж" (1992), "Трыба" (1998), "Бераг" (1998), "Люблю вясну" (2000), "Вынікі падсумоўваліся ў панядзелак" (2001), "Пялёсткі полымя" (2002), "Фантазіі старога дзеда" (2005). Вершы, якія склалі

гэтыя зборнікі, з філасофскім бачаннем прыроды і жыццёвых з’яў. Паэт знаходзіў тэмы і дэталі з блізкага яму вясковага побыту. Яны былі напісаны пра наша жыццё, хаця жыццё – гэта не толькі радасці. Таму лірычны герой ягоных паэтычных твораў заўсёды ў роздуме, у няпростым, нярэдка балючым самааналізе, галоўнае для яго – моцнае пачуццё, думка, якія шукаюць глыбіні і змястоўнасці. Паэт вёў няўрымслівы і наватарскі пошук ва ўсім. Гэтым ён быў і цікавы, эмацыянальны і новы…

На вялікі жаль, памяць пра Івана Чыгрына, як і пра многіх іншых літаратараў-слонімцаў, на радзіме не ўшанавана.




*Кнігі Івана Чыгрына*



# Уладзімір Весялуха

Педагог і паэт Уладзімір Весялуха – мой зямляк са Слонімшчыны. Але так склаўся лёс, што сустрэцца нам на гэтым свеце, на вялікі жаль, не ўдалося. Аб чым, як заўсёды, вельмі шкадую.

Памятаю, калі быў яшчэ школьнікам, у Слонімскай раённай газеце сяды-тады друкаваліся вершы Уладзіміра Весялухі. Я іх чамусьці добра запомніў. Бо неяк аднойчы Генадзь Каханоўскі мне напісаў у лісце, што ў Вілейцы жыве мой зямляк Уладзімір Весялуха – добры паэт, педагог і краязнавец, які падрыхтаваў і выдаў некалькі кніг. І прыслаў мне вілейскі адрас земляка. Я адразу ўспомніў пра вершы з “раёнкі” Уладзіміра Весялухі і падумаў: магчыма гэта і ёсць той Весялуха. А потым напісаў у Вілейку пісьмо. Але адказу доўга не было. І дзесьці ў сярэдзіне 1990-х гадоў прыйшоў ад Уладзіміра Весялухі ліст і невялікая бандэролька з кнігамі. Нядаўна ў папках свайго хатняга архіву адшукаў я гэты першы ліст. Прыгожым роўненькім почыркам Уладзімір Мікалаевіч пісаў: “ Паважаны Сяргей Мікалаевіч! Шчыра ўдзячны Вам за лісты і ўвагу да мяне. І адразу прашу прабачэння за маўчанне. Першае пісьмо прыйшло на адрас аддзела адукацыі, дзе я працаваў, але нехта памылкова, мабыць, яго са

сваімі паперамі знішчыў, а адраса ў мяне не засталося. Спрабаваў даведацца ад брата, які жыве ў Слоніме, але ён мне не змог дапамагчы. Цяпер, маючы адрас, пастараюся трымаць з Вамі сувязь.

Коратка пра сябе. Працую ў Вілейскай гімназіі намеснікам дырэктара па вучэбна-метадычнай рабоце і выкладаю беларускую мову і літаратуру. Па меры магчымасці займаюся з вучнямі, якія праяўляюць літаратурныя здольнасці. Патроху пішу і сам. Друкаваўся ў мясцовай газеце. Некалькі вершаў змясціў у калектыўным зборніку "Спатканне" (1994), які Вам дасылаю.

Наконт дзвюх кніг, аб якіх гаварыў Генадзь Аляксандравіч Каханоўскі. Гэта кнігі не з маімі творамі: адна з іх накшталт даведачнага матэрыялу пра літаратурную Вілейшчыну на аснове сабранага мною матэрыялу (экземпляр Вам дасылаю, праўда, ужо засталіся без вокладак (працую над дапаўненнем брашуры); а другая – з вершамі вучняў сельскіх школ -- "Усё пачынаецца са школы", укладаннем якой я з'яўляюся.

Шчыра дзякуй, Сяргей Мікалаевіч, за зборнік Вашых вершаў "Шчырая Шчара". Прачытаў на адным дыханні, прачытаў і нібы пабываўна радзіме, па якой часам сумую. Многія вершы ўражваюць, а адзін з іх (думаю, Вы не пакрыўдзіцеся) я выкарыстаў у 11 класе на заключным уроку па творчасці Васіля Быкава. Дарэчы, Ваша імя часта сустракаю ў перыядычным друку, што, безумоўна, радуе.

На гэтым свой кароткі ліст заканчваю. Да чарговай, хоць і завочнай, сустрэчы! З удзячнасцю і найлепшымі пажаданнямі Уладзімір Весялуха".

Вось такі быў першы ліст ад майго земляка са Слонімшчыны Уладзіміра Весялухі. Пасля мы перапісваліся. Але не так часта. Тым не менш сувязі не гублялі. А летам 2004 года зайшоў у рэдакцыю "Газеты Слонімскай", дзе я працаваў, пляменнік Уладзіміра Весялухі – міжнародны арбітр па шашках Аляксандр Аніська, і сказаў, што 1 жніўня не стала Уладзіміра Мікалаевіча. Я быў шакіраваны: майму земляку 2 студзеня 2004 года споўнілася толькі 56 гадоў…

Уладзімір Весялуха нарадзіўся 2 студзеня 1948 года ў вёсцы Старыя Дзевяткавічы Слонімскага раёна. У сям'і Весялу-

хаў было шасцёра дзяцей. Гадавала іх адна маці, бо бацькі рана не стала – яго забіла маланка.

Уладзімір быў перадапошнім дзіцём у сям'і.Ён скончыў мясцовую дзесяцігодку. Спачатку працаваў загадчыкам клуба, бібліятэкарам у роднай вёсцы, а пасля завочна паступіў на філфак Белдзяржуніверсітэта. Падчас вучобы жыў не ў інтэрнаце, а на кватэры недалёка ад факультэта. Лекцыі ніколі не прагульваў, бо быў старастам, меў шмат абавязкаў. Выкладчыкі яго добра ведалі, таму адразу заўважылі б яго адсутнасць. На апошнім курсе вучобы Уладзіміру Весялуху прапапноўвалі паступаць у аспірантуру, бо дыпломная праца “цягнула” на кандыдацкі мінімум. Але вясковы юнак са Слонімшчыны не пагадзіўся. Ён вярнуўся на Слонімшчыну і пасля трох гадоў настаўніцтва, яго прызначылі на пасаду дырэктара Хмяльніцкай васьмігадовай школы. Дарэчы, той школы, дзе з восені 1912 да траўня 1915 гадоў настаўнічаў Ігнат Дварчанін (1895-1937) – у будучым вядомы грамадска-палітычны дзеяч, літаратар, доктар філасофіі. Цяпер у Хмяльніцы няма школы, ды і вёска даўно стала неперспектыўнай.

У пачатку 1983 года Уладзімір Весялуха з сям'ёй пераехаў у Вілейку. У апошнія гады свайго жыцця ён працаваў у мясцовай гімназіі № 1. Настаўнік не толькі актыўна займаўся педагагічнай дзейнасцю, але і прывіваў любоў у дзяцей да роднай культуры, да матчынай мовы, захапляўся літаратурных краязнаўствам. Ён добра разбіраўся ў паэзіі, ведаў яе, цаніў працу беларускіх літаратараў. Уладзімір Весялуха даследаваў літаратурную Вілейшчыну. Для школьнікаў ён падрыхтаваў і выдаў брашурку пра літаратараў Вілейшчыны. А ў 1990 годзе ў Вілейцы, пры падтрымцы аддзела народнай адукацыі Вілейскага райвыканкама, выйшаў зборнічак паэзіі школьнікаў пад назваю “Усё пачынаецца са школы...”. Гэты зборнічак склаў і рэдагаваў Уладзімір Мікалаевіч. У ім надрукаваны вершы 22 юных паэтаў Вілейшчыны. І ўсе вершы на беларускай мове, толькі адзін па-руску. Цяпер гэтым паэтам па 30 і больш гадоў. А тады яны былі вучні 5-11 класаў. Зборнік пачынаўся вершам “Беларусь” вучаніцы Даўгінаўскай сярэдняй школы Святланы Ляшковіч:

Беларусь, родны край,
Мілы кут.
Люба сэрцу ты мне,
Бо радзіма мая –
Гэта звонкая песня,
Што ля рэчкі плыве,
Гэта матчына доля,
Што жыццё мне дае,
Гэта тыя бярозы,
Што стаяць у бары,
Гэта бацькавы рукі,
Што ў працы заўжды.
Ўсім паклон я даю:
Лясам, рэкам і долам,
Людзям, птушкам, звярам,
Маладым навасёлам.
Пакуль сонца свеціць,
Пакуль месяц ззяе,
Беларусь назаўжды
Застаецца з намі!

Ва ўступным слоўцы да гэтай кніжачкі Уладзімір Весялуха сказаў: "Усё пачынаецца са школы...". Такая назва зборніку вучнёўскіх вершаў дадзена невыпадкова. Як вялікая рака пачынаецца з маленькіх ручайкоў, так і вялікая любоў да Радзімы, людзей, усяго, што акружае, пачынаецца са школьнай парты... Не будзем строга судзіць юных паэтаў у некаторай недасканаласці іх вершаў. Галоўнае, што іх вызначае – шчырасць, дзіцячая непасрэднасць, а часам – і летуценнасць. Пажадаем жа ім любоў да мастацкага слова пранесці праз усё жыццё. Магчыма нехта з іх стане нашым гонарам...".

Магчыма нехта з аўтараў зборнічка "Усё пачынаецца са школы..." і, сапраўды, стаў гонарам Вілейшчыны. Але гэта найперш дзякуючы сціпламу і шчыраму настаўніку Уладзіміру Мікалаевічу Весялуху. Творы некаторых паэтаў з вышэй упамянутага зборнічка я прачытаў ужо ў кнізе вершаў "Спатканне" (Вілейка, 1994). Яны былі надрукаваны побач з паэтычнымі радкамі іх настаўніка. Гэты зборнік тады з'яўляўся

вынікам творчай дзейнасці сяброў аб’яднання “Майстэрства. Фантазія. Шчодрасць”, якое працавала пры Вілейскай гарадской бібліятэцы. У “Спатканні” на суд чытачоў Уладзімір Весялуха вынес 7 вершаў, прысвечаных настаўнікам, Масіму Багдановічу, Н. Ф. Купрыянавай, якая ў часы Другой сусветнай вайны не дачакалася сваіх сыноў, а таксама вершы-развагі пра наша жыццё.

Многія творы Уладзіміра Весялухі раскіданы па розных выданнях. Бо ён пісаў не толькі вершы, але і педагагічныя артыкулы, рэцэнзіі на кнігі і падручнікі. Свае працы друкаваў у раённых выданнях Слоніма і Вілейкі, у “Настаўніцкай газеце” і ў іншай перыёдыцы. У адным з пісем Уладзімір Мікалаевіч напісаў, што “сваіх зборнікаў я пакуль не выдаваў і не планаваў выдаваць. Думаю, што пакуль рабіць гэта не варта...”.

Праз два гады пасля смерці Уладзіміра Весялухі, я атрымаў ліст ад яго жонкі Аляксандры Паўлаўны. Яна пісала: “…Я і трое сыноў Уладзіміра Мікалаевіча Весялухі шчыра дзякуем Вам за памяць пра нашага мужа і бацьку. Прайшло ўжо два гады, як яго няма, а горыч вялікай страты нас не пакідае… Пры жыцці Уладзімір Мікалаевіч быў вельмі сціплым чалавекам. Ён быў фанатычна адданым чалавекам сваёй працы. У апошнія гады жыцця выкладаў беларускую мову і літаратуру. Любіў пісаць вершы і быў актыўным сябрам літаратурнага аб’яднання Вілейшчыны. Але, калі яму прапанавалі выдаць асобны зборнік вершаў, ён сціпла адмовіўся, маўляў, на зборнік не хапае добрых паэтычных твораў…”.

2 студзеня 2019 года Уладзіміру Весялуху споўнілася б толькі 71 год. Ён рана пакінуў сваю сям’ю, землякоў, сяброў. Магчыма, пры жыцці Уладзімір Мікалаевіч сабраў бы ўсё лепшае ім напісана і выдаў бы асобным зборнічкам. Але гэтага ён не паспеў зрабіць. Тым не менш, творчая спадчына Уладзіміра Весялухі павінна быць сабрана і выдадзена. І гэта будзе найлепшай памяццю пра яго.



# Валянціна Ададурава



Пра таленавітую паэтку і настаўніцу Валянціну Ададураву (1941-1995) сёння нагадвае толькі адзіны зборнічак яе вершаў "Глыбінка", які выйшаў з друку ў Слонімскай друкарні за год да смерці Валянціны Захараўны – у 1994 годзе.

Шмат гадоў чакала свой першы паэтычны зборнік гэтая сціплая і здольная жанчына. Жывучы ў глыбінцы, ёй цяжкавата было выдаць яго ў Мінску, дзе ў выдавецтвах па некалькі гадоў ляжалі рукапісы нават даволі масцітых літаратараў рэспублікі. Таму ёй, вясковай настаўніцы, адзінай радасцю і ўцехай было бачыць свае паэтычныя творы надрукаванымі ў раённай і абласной газетах ці часам у часопісах "Работніца і сялянка" і "Роднае слова". Адзін верш нават неяк трапіў і ў зборнік "Краю мой – Нёман" (Мн., 1986). Усё ж гэтыя клопаты было для Валянціны Ададуравай менш істотнымі, бо галоўнае – было натхненне, пісаліся і пісаліся новыя вершы.

Нарадзілася паэтка ў 1941 годзе ў вёсцы Хадзявічы Слонімскага раёна. Закончыла філалагічны факультэт Белдзяржуніверсітэта. Жыла і працавала настаўніцай у вёсцы Елка

на Зэльвеншчыне. Дарэчы, ад яе роднае вёскі да Елкі нейкіх тры кіламетры. Па дарозе дамоў стаіць велічная і неўміручая Сынковіцкая царква-крэпасць. Пра яе, як і пра вёскі Хадзявічы і Елка, у паэткі таксама ёсць верш, а ў ім радкі:

Каторы век каштанаў свечкі
Цвітуць ля крапасной сцяны.
Што ж! Чалавек недаўгавечны,
А сцены – вунь стаяць яны.

Гэтую страфу я працытаваў з першага зборніка вершаў Валянціны Ададуравай "Глыбінка" (Слонім, Фундатарам выдання было будаўніча-мантажнае прадпрыемства "Зэльваэнергабуд".

Любоў да роднай зямлі праходзіць праз усе вершы паэткі. Цэлая геаграфія Зэльвеншчыны і Слонімшчыны ў яе радках. Яны шчырыя і светлыя, як крыніцы. Адразу адчуваеш, што пісаліся гэтыя творы на адным дыханні. І пісаліся яны менавіта тады, калі пульсавала натхненне, калі на сэрцы і ў душы выспявалі радкі і прасіліся на паперу:

Паэзія – хранічная хвароба,
А рэцыдывы – ўвосень і вясной.
Калі наш край у лісцяной аздобе, –
Прыходзіць Муза, каб пабыць са мной.
Прыйдзе ўранку і падыме з ложка,
Або ў ціхі прадвячэрні час
Жар-птушкай прамільгне, пакружыць трошкі,
Лаві яе, страчай і прывячай...

Вобразы вёскі і сваіх землякоў для паэткі Валянціны Ададуравай – нібы глыток чыстай, гаючай вады, якая лечыць, супакойвае і жывіць, надае сілы і бадзёрасць. Яна сама прызнаецца, што "не шукае далёкага раю" і што "мне мілей беларускі родны кут", дзе

Хаты з крамяных смольных хваінак,
Вольхі за вёскай па груды ў вадзе.
Стукнеш у дзверы няўтульнай часцінай –
Сэрцам сагрэешся тут у людзей.

Чытаючы зборнік вершаў паэткі, звярнуў увагу на верш

“Бацькаўшчына”. У ім цэлы вянок беларускіх слоў на літару “б”. Дзіву даешся, якія ўсё ж у нашай мове сакавітыя і прыгожыя словы. Вось, напрыклад, колькі іх у адным гэтым вершы: бацькаўшчына, бор, балота, блакіт, белы бусел, Беларусь, беразняк, бракун, брусніцы, бульба буяе, бурштынавыя бярвенні, беларусы. Цэлы слаўнічак у адным вершы.

Даўно ўжо няма жывых бацькоў нашай зямлячкі, але ім у зборніку прысвечана шмат вершаў. Большасць з іх напісана на фальклорнай аснове, бо, відаць, праз народную песню глыбей перадаецца любоў да маці і бацькі ці проста помняцца тыя песні, якія яны спявалі:

Ой, у полі каліна,
Дый каліна завяла,
Без цябе, любы,
Без цябе, мілы,
Мая доля прапала...

Валянціна Ададурава ўсё жыццё працавала ў школе, усё жыццё была сярод дзяцей. Таму дзіўна было б, каб пра школу не пісалася б вершаў. Праўда, большасць сённяшніх паэтаў пачыналі свой працоўны шлях настаўнікамі ў школах, а вось вершаў на гэтую тэму, на жаль, напісана зусім мала. У аўтаркі зборніка “Глыбінка” такія вершы ёсць, прычым добрыя вершы, якія так і просяцца на музыку:

Ах, сто дарог! Да пабачэння, школа!
Ах, сто дарог! Вы сніліся даўно!
Але чаму сягоння невясёла
Звініць той самы школьны наш званок!..

На апошніх старонках першай кніжкі В. Ададуравай надрукаваны побач два вершы – “З думай пра музей Ларысы Геніюш” і “Памяці Ларысы Геніюш”. Розныя яны па мастацкаму ўзроўню, але такія радкі нельга не працытаваць з гэтых вершаў:

Нахлынуць успаміны, думы, мроі –
І дапазна агеньчык у акне.
Чай для гасцей на чабары настоены,
А ўласны шлях – на горкім палыне.

***

Час веснавы, а Зэльвеншчына ў скрусе...
Над Зэльвай цёплы красавіцкі дзень.
Ідзем да Вас – ідзем да Беларусі,
І верым – з Вамі да яе дайдзем.

Ёсць у зборніку і лірычна-іранічныя вершы. Чытаючы іх, адчуваеш, што ў беларускай глыбінцы таксама ўмеюць жартаваць і смяяцца. Па адных назвах можна здагадацца аб чым яны. Вершы "У паліклініцы", "Жанчыне цяжка дагадзіць", "Дэфіцыт", "Мой воз і лёс" апавядаюць аб тым, чым "хварэюць" сёння вёска і райцэнтр.

Бясконца можна гаварыць пра першы паэтычны зборнік "Глыбінка" Валянціны Ададуравай. Яго ўзрушаны роздум аб тым, што ўбачана і пражыта, ён кранае напоўненасцю радкоў і вобразнай мовай. Паэзіі аўтаркі ўласціва напружанае судакрананне думкі і пачуцця, гранічная шчырасць у лірычным самавыяўленні. Ёсць, праўда, і вершы, якія з гадамі страцілі сваю актуальнасць, састарэлі, але "Глыбінка" паэткі атрымалася як песня, а з песні слоў не выкінеш.

Так я пісаў пра першы зборнік Валянціны Ададуравай у 1995 годзе. Пісаў тады, каля яна жыла, і калі хутка яе не стала. Цяпер кожны раз, калі еду ў родную вёску паэткі Хадзявічы, а гэта і мая родная вёска на мяжы Слонімскага і Зэльвенскага раёнаў, мне прыгадваюцца яе цудоўныя шчырыя радкі:

Куточак родны – Хадзявічы.
Да вас шляхі з усіх канцоў.
Ды незнаёмы, непрывычны
Мне твары юных хадзяўцоў.
Дадому ў госці... Крыўдна шчыра.
Ды птушкам быць не век ў гняздзе.
Хай будзе найцяплейшы вырай,
А сцежка зноў сюды вядзе.

Разам з гэтымі радкамі, прыгадваецца і сама Валянціна Захараўна. Не так часта прыходзілася з ёй сустракацца, бо жыла яна ў суседняй з Хадзявічамі вёсцы Елка Зэльвенскага раёна, але такія сустрэчы былі. Найбольш яе цікавіла тое, аб чым я пішу. Яна пыталася заўсёды, што новае ў літаратуры, у

нашай культуры. Была Валянціна Ададурава вельмі сціплай, адукаванай, інтэлігентнай, апантанай у жыццё жанчынай. Але лёс ёй не даў пажыць шмат, невылечная хвароба яе рана загнала ў магілу. Як Максім Багдановіч, так і наша зямлячка, пры жыцці паспела выдаць толькі адзіны зборнічак светлай паэзіі "Глыбінка". Па сваіх светаадчуваннях, светаразуменнях, манеры думаць і гаварыць Валянціна Ададурава была найперш вясковай, сялянскай паэткай. Яе любоў да роднага краю была настолькі магутнай, усеабдуманай, што, правёўшы дзяцінства, юнацтва ў вёсцы паэтка зрабіла яе галоўным героем у сваіх паэтычных радках. Свае вершы яна прысвяціла роднай вёсцы Хадзявічы, зэльвенскім вёскам Шавулічы, Манцякі, Ялуцавічы, Елка, Крамяніца, родным краявідам і землякам. Уся істота паэткі была ахоплена такой нястрымнай любоўю да маленькай радзімы, што нічога, апроч яе, яна проста не магла ўспрымаць:

Гайдае рэчка тут ваду
Знаёмымі ўсплёскамі.
А я сцяжынкаю іду,
А я прыспешваю хаду –
Спаткацца з роднай вёскаю.

Валянціну Ададурава вельмі хваляў і лёс роднай зямлі, мовы і народа, прыгажосць беларускай прыроды, пытанні маралі і міру. Пра гэта яна таксама пісала. Няўтольная прага любові да ўсяго блізкага, да гродзенскага краю, Бацькаўшчыны, шчырых і добрых людзей гучалі ў яе мілых, адкрытых паэтычных радках. Вельмі часта перачытваю яе "Глыбінку" – зборнічак жаночых пачуццяў, захапленняў, радасці, дзе хораша апета родная зямля, якая, як магніт прыцягвала яе чуллівае сэрца. Чытаю яе вершы сёння і адчуваю, што без Беларусі ёй не было б спакою, не было б натхнення і святасці. Паэзія, землякі і родная зямля яе лячылі, суцяшалі, а паэтка іх апявала ў сваіх вершах. Гэтыя вершы Валянціна Ададурава пакінулам нам, як напамін пра яе, як наказ, як трэба любіць бацькоўскі кут, захапляцца ім, берагчы і шанаваць яго.



# Уладзімір Шундрык

Пазнаёміўся я са шчырым беларусам, настаўнікам, краязнаўцам і паэтам са Слоніма Уладзімірам Шундрыкам дзесьці ў другой палове 1980-х гадоў. Гэта ён, Уладзімір Іванавіч, мне падараваў тады кнігі Уладзіслава Казлоўшчыка, Сяргея Хмары, Станіслава Грынкевіча, Хведара Ільяшэвіча, якія выдаваліся ў Заходняй Беларусі ў 1930-х гадах. Аднойчы Уладзімір Шундрык паказаў мне кнігу Язэпа Найдзюка "Беларусь учора і сёння", выдадзеную ў 1943 годзе ў Мінску. "Гэтую кнігу я хачу падараваць табе, каб ты добра вывучыў гісторыю нашай Бацькаўшчыны і ведаў праўду", – сказаў мне Уладзімір Іванавіч. Я "адным глытком" яе "праглынуў", потым чытаў і перачытваў дзесяткі разоў. Яна і цяпер стаіць на паліцы на самым відным месцы ў маёй кватэры.

Уладзімір Іванавіч Шундрык нарадзіўся ў мікрараёне Рышчыцы. Падчас нямецкай акупацыі вучыўся ў Слоніме. Вось што пра яго вучобу прыгадвае былы настаўнік, цяпер пенсіянер Мікалай Ракевіч: "Сам Валодзя мне расказваў пра вучобу пры немцах. Ён казаў, што ў школе працавалі даволі адукаваныя настаўнікі, таму на ўроках заўсёды было цікава. Настаўнікі адкрывалі нам праўдзівую гісторыю Беларусі, распавядалі пра выдатных дзеячаў, якія праславілі наш край. За-

помніўся асабліва настаўнік Паважынскі. Яго ўрокі мы чакалі з нецярпеннем, яны прабягалі для нас, як адна хвіліна. Цікавая работа вялася і па лініі Саюза беларускай моладзі (СБМ). Усе вучні былі сябрамі СБМ. Насілі сваю адметную форму, якую выдавалі бясплатна. У летні час у Альбярціне праводзілася работа з дружынамі: вучні развучвалі беларускія песні, рыхтавалі сцэнары розных мерапрыемстваў. Потым дружыновыя вялі такую работу ў сваіх дружынах. Шмат увагі надавалася спорту. Перыядычна адбываўся збор арганізацыі СМБ на гарадской цэнтральнай плошчы ў Слоніме. Завяршаўся збор паходнай песняй і маршыроўкай. Ніякай антысавецкай агітацыі не праводзілася. Нават настаўнікі нашы стараліся нас папярэдзіць, каб мы не ўдзельнічалі ні ў якіх палітычных мерапрыемствах".

Але, на жаль, дзейнасць Саюза беларускай моладзі (СБМ) у пасляваенныя гады трактавалася савецкімі ўладамі як калабарацыя з нямецкімі акупантамі, а ягоныя сябры амаль усе былі рэпрасаваныя. Баяўся рэпрэсій і Уладзімір Шундрык. Летам 1944 года ён хацеў з'ехаць на Захад. Нават сеў у цягнік, але бацька адшукаў юнака, зняў з цягніка і забраў дахаты. А калі Слонім занялі савецкія войскі і прыйшла ў наш горад зноў савецкая ўлада, Уладзіміра Шундрыка некалькі разоў выклікалі на допыт супрацоўнікі НКУС. Яны распытвалі пра СБМ, пагражалі арыштам і расстрэлам. Але на адным з допытаў Уладзімір сказаў, што кінуў вучобу ў школе, не быў у СБМ, а працаваў вучнем у каваля. Больш яго НКУС не чапаў.

У 1951 годзе Уладзімір Шундрык скончыў Гродзенскі педінстытут імя Янкі Купалы. Па накіраванні спачатку настаўнічаў на Міншчыне, але ў 1957 годзе вярнуўся ў родны Слонім, дзе шмат гадоў працаваў настаўнікам роднай мовы і літаратуры, а таксама выкладаў сталярную справу.

У вольны час Уладзімір Шундрык даследаваў гісторыю роднага краю, сам спрабаваў пісаць, выступаў з артыкуламі на краязнаўчую і літаратурную тэматыку ў мясцовым і абласным друку. "Мне аднойчы запомніўся яго цікавы і змястоўны даклад пра Гальяша Леўчыка на секцыі настаўнікаў беларускай літаратуры, – прыгадвае настаўнік-пенсіянер Мікалай Ракевіч. – Валодзя меў схільнасць і да паэзіі, пісаў вершы на патрыятычныя тэмы, іншы раз па памяці дэкламаваў іх. Шкада, што я не запісаў вершаў Уладзіміра Шундрыка".

Сапраўды, праглядаючы старыя падшыўкі “Гродзенскай праўды” і слонімскай раёнкі, я пазнаходзіў вершаў Уладзіміра Шундрыка, а таксама некалькі ягоных артыкулаў. Ён пісаў пра літаратурныя вечары на Слонімшчыне, пра сваіх землякоў, пра тое, як Янка Купала прыязджаў у 1939 годзе ў Слонім і сустракаўся з паэтам Гальяшом Леўчыкам і іншыя.

Адзін з вершаў Уладзіміра Шундрыка быў надрукаваны ў зборніку “Золак над Шчарай” (Слонім, 1994), ён прысвячаўся роднай мове. Вось як гучыць адна страфа з таго верша:

Беларуская мова – гэта факел свабоды,
Гэта промень святла ў паднявольнай начы.
Паважае ўвесь свет толькі тыя народы,
Што змаглі сваю мову, свой край зберагчы…

Беларускую мову і слова Уладзімір Іванавіч Шундрык шанаваў, як самае святое на зямлі. Ён любіў Бацькаўшчыну і свой горад над Шчарай. Ён шчыра вітаў незалежнасць Беларусі, быў сябрам БНФ, прымаў удзел у многіх мерапрыемствах, якія ладзіліся сябрамі БНФ.

У апошнія гады ён жыў адзін. Ён перажываў за ўсё, што адбывалася ў Беларусі. Гэтыя перажыванні, адчай і самота ўкарацілі яму жыццё.



*Уладзімір Шундрык у цэнтры Слоніма, 1960-я гады*

# Рудольф Пастухоў



Дваццаць адзін год таму на летніку ў вёсцы Чамяры недалёка ад Слоніма мы адзначалі 60-годдзе слонімскага паэта і грамадскага актывіста Рудольфа Пастухова. На юбілей тады прыехалі яго самыя блізкія сябры. Быў сонечны і цёплы верасень, такі ціхі, як сёлета. Былі ўсмешкі сяброў, пажаданні і вершы, прысвечаныя юбіляру. Ну, напрыклад, як гэтыя радкі Алеся Чобата:

За вёскай Чамяры
Палеткі і бары –
Прыгожа так, што не знаходзіш слова.
І хоць абрыдла жыць,
А добра тут пабыць
На сотках у Рудольфа Пастухова…

Рудольф шмат курыў, быў вельмі спакойны і шчаслівы.

–Усе чумарыкі прыедуць, – сказаў ён і ўсміхнуўся.

–Хто-хто? – перапытаў я.

–Чумарыкі. Такое ў нас сяброўскае таварыства ёсць. Мы яго самі прыдумалі і стварылі.Сюды ўваходзяць тыя, хто добра разумее гумар і жарты, хто фізічна здаровы і мае здольнасці ў літаратуры, журналістыцы, культуры, музыцы і г.д. –

растлумачыў Рудольф Аляксеевіч. А пасля дадаў: “Сёння на маім юбілеі ў чумарыкі прымем і цябе. Ты ў нас будзеш самым маладым чумарыкам”.

Калі сабраліся ўсе госці, пачалася працэдура прыняцця мяне ў чумарыкі. Смеху было на ўсю чамяроўскую дачу. Нават розныя гумарыстычныя перадачы не змаглі б канкурыраваць у той дзень з вясёлай кампаніяй слонімскіх чумарыкаў...

Такім запомніўся мне той апошні юбілей Рудольфа Пастухова – тутэйшага паэта, інтэлігента, шчырага, вясёлага чалавека і адданага сябра. Хто тады ў верасні 1996 года мог падумаць, што праз год яго не стане? Раптоўна і нечакана… А мы з ім яшчэ шмат думалі і выношвалі п’есу “Камера”, якая засталася незакончанай. Хацелі разам напісаць пра сталінскія лагеры і паставіць на сцэне Слонімскага драматычнага тэатра. Гэта яго верш “Курапаты” у кастрычніку 1988 года быў надрукаваны ў газеце “Літаратура і мастацтва” у перакладзе Івана Сяргейчыка і выклікаў шмат станоўчых водгукаў. Моцная дакладная рыфма гучала водгукамі стрэлаў, якія знішчалі тут усё жывое, нават тое, што забіць нельга:

Не Бухенвальд тут,
Не Хатынь,
А – Курапаты.
Замшэлы лес –
Куды ні кінь,
Ды скрып лапаты.
І сэрца стук
На кожны гук
Смяротна раніць,
Жалобна б’е
Паклон зямлі
Людская памяць…

Рудольф Пастухоў рыхтаваў да друку свой другі зборнік вершаў, актыўна займаўся перакладамі з беларускай мовы на рускую. А першы і адзіны яго зборнік вершаў выйшаў у Слонімскай друкарні ў 1994 годзе з каротнай назвай “Судьба”. Прадмову да зборніка напісала Данута Бічэль, а пасляслоўе “Гісторыя аднаго з нас” – Алесь Чобат. Данута Бічэль сваю прадмову да

кнігі назвала “Паэт з берагоў Шчары”. Яна пачыналася такімі радкамі: “Звычайны, чалавечы, людскі лёс… Але ці звычайны? А калі незвычайны, дык ці не таму, што паэт Рудольф Пастухоў жыве ў гэтым Краі? Ён – рускі, але тутэйшы, свой. Ён – электрык, але інтэлігент. У яго ўсё проста – і адначасова ўсё заглыблена, перакручана, ускладнена. Ён – паэт, але ўжо ў сталым веку выдае сваю кнігу. Але добрую…”.

Кніга, сапраўды, атрымалася добрая. А вось гэтыя радкі мне назаўсёды запалі ў душу:

Это просто ставни скрипят,
Как шаги на снегу…
…Я во сне на подушке распят –
Но к тебе распятым бегу.

Часта Рудольф Пастухоў прыносіў мне свае вершы. “Няхай будуць у тваім хатнім архіве. Можа, калі спатрэбяцца”, -- казаў ён. Наогул, калі мне рабілася сумна і адзінока, я тэлефанаваў Рудольфу Аляксеевічу. “Прыязджай да мяне”, -- казаў ён у тэлефонную трубку і чакаў майго візіту. Мы гутарылі пра жыццё, пра палітыку, пра літаратуру. Ён ніколі нікому не зайздросціў, заўсёды быў шчырым старэйшым сябрам, дарадцам, кансультантам. Такім ён і застаўся ў маёй памяці.

А лёс Рудольфа Пастухова не песціў. Рана застаўся без бацькоў. Рос і выхоўваўся ў ГУЛАГу. Першы верш з’явіўся ў насценнай газеце Буйскай дзіцячай працоўнай калоніі Кастрамской вобласці (Расія) у 1951 годзе. Аб чым ён пісаў, нават сам аўтар не памятаў.

Шляхі-дарогі паэта кідалі па ўсім былым Савецкім Саюзе. У 1970 годзе ён прыехаў у Слонім, каб застацца тут на ўсё жыццё. Праз год у Слонімскай райгазеце з’явілася яго першая паэтычная падборка. А аднойчы, напісаўшы добрую нізку вершаў, паехаў Рудольф Пастухоў у “Гродзенскую праўду” да Васіля Быкава, які працаваў тады ў гэтай газеце літкансультантам. Васіль Уладзіміравіч уважліва прачытаў творы, пагутарыў з паэтам са Слоніма, а праз пэўны час лепшыя з вершаў з’явіліся на старонках абласной газеты. Пасля былі новыя публікацыі. Вершы паэта з берагоў Шчары друкаваліся ў іншых рэспубліканскіх і абласных газетах і часопісах, а таксама ў зборніках “Дзень паэзіі-98”, “Золак на Шчарай”, расійскіх выданнях.

Быў час, калі Рудольф Пастухоў актыўна займаўся ў Слоніме грамадска-палітычнай дзейнасцю, выбіраўся дэпутатам Слонімскага гарсавета. Ён быў першым кіраўніком Слонімскай суполкі Беларускага Народнага фронту. Але заўсёды і ўсюды пісаў вершы. Пісаў іх за кратамі, у тайзе, на лесапавале, у каменным кар'еры, у доме культуры, на Слонімскай камвольна-прадзільнай фабрыцы, дзе да пенсіі працаваў электраманцёрам. Але лепш за ўсё яму пісалася дома ў слонімскай кватэры і на летніку ў Чамярах:

Я солнце собираю по лучам,
В охапку, как большой букет сирени.
Несу тебе – пусть светит по ночам,
Убрав из жизни сумерки и тени…

Шкада, што такія людзі, як Рудольф Пастухоў, нас рана пакінулі. Але ў памяці тых, хто ведаў яго і чытаў ягоныя творы, паэт застанецца надоўга. Ну, як у яго паэтычных радках:

Мне очень надо встретиться с тобой,
Что б от тебя до смерти не уйти…



*Рудольф Пастухоў (у цэнтры) з землякамі на дачы, 1996 г.*

# Невядомы паэт і археолаг Генрых Мілачэўскі

Даўно яшчэ чуў ад старых сваіх землякоў, што ў пачатку XX стагоддзя на Слонімшчыне жыў цікавы паэт і археолаг Генрых Мілачэўскі. Знайсці хоць якія-небудзь звесткі пра яго ў Беларусі і ў Польшчы мне шмат гадоў не ўдавалася. Няма звестак пра яго і ў “Польскім біяграфічным слоўніку”.



*Генрых Мілачэўскі са сваякамі*

Тым не менш, у апошні час сёе-тое з біяграфіі Генрыха Мілачэўскага ўдалося даведацца. Найбольш у гэтым дапамагла сталага веку сланімчанка Ганна Пішчыкевіч. Ганна Фёдараўна родам з Мілачэўскіх. Пра сваіх дзядоў і прадзедаў яна мне расказала вось якую гісторыю.

Браты Мілачэўкія ў XIX стагоддзі жылі ў вёсцы Блізная, недалёка ад шашы па дарозе са Слоніма на Ружаны. Адзін з братоў – Міхал Мілачэўскі – браў удзел у паўстанні 1863 года.

А пасля паражэння паўстання Міхалу Мілачэўскаму ўдалося ўцячы ў Парыж. Там ён ажаніўся з француженкай і ад гэтага шлюбу меў дачку і сына. Пражыўшы ў Парыжы 13 гадоў, Міхал з сям'ёй вярнуўся на Слонімшчыну. Але браты не дужа ветліва яго сустрэлі і адмовілі Міхалу ў спадчыне, якая засталася ад бацькоў. Але за прывезеныя з Францыі грошы, Міхалу Мілачэўскаму ў 1878 годзе ўдалося купіць невялікі маёнтак на хутары Камілёва і млын у вёсцы Клепачы Слонімскага павета. А калі Міхал састарэў, то ўсю сваю спадчыну ён перадаў сыну Паўлу.

На той час Павел жыў добра, у яго было чацвёра дзяцей – Генрых, Ганна, Марыя і Паўліна. Кожнаму з дзяцей Паўла, пасля яго, смерці ў спадчыну засталося па 5 гектараў зямлі і па ¼ частцы млына ў вёсцы Клепачы. Праўда, сына Генрыха праца на зямлі мала цікавіла, яго больш цягнула да кніг, да вывучэння гісторыі роднай зямлі.

Генрых Мілачэўскі нарадзіўся прыблізна ў 1897 годзе на хутары Камялёва, недалёка ад чыгуначнай станцыі Азярніца. Першапачатковую адукацыю атрымаў у Слоніме. Потым магчыма вучыўся ў Вільні. Але дзе канкрэтна, аўтару гэтых радкоў даведацца пакуль не ўдалося.

Генрых Мілачэўскім пісаў на польскай і беларускай мовах, якія сам дасканала ведаў. У 1929 годзе ў Гродне ў друкарні К.Крамкоўскага ён выдаў зборнік выбраных вершаў на польскай мове "Plyn, piosenko". Сюды ўвайшлі вершы, напісаныя аўтарам на працягу 1908-1922 гадоў. Гэта вершы, прысвечаныя роднай прыродзе, бацькоўскай зямлі, сябрам, землякам, шмат радкоў на рэлігійныя тэмы, а таксама вершы, прысвечаныя бежанству перыяду Першай сусветнай вайны. У адным з вершаў паэт сам шчыра прызнаўся: "Для вас – знаёмых і незнаёмых сёстраў і братоў я пішу свае паэтычныя радкі".

Генрых Мілачэўскі для Ганны Пішчыкевіч быў родным дзядзькам, мамы яе родны брат. У Ганны Фёдараўны да сённяшніх дзён захоўваецца вышэй названы зборнічак вершаў з аўтографам для яе мамы: "Каханай маёй сястры Полі – на памятку. Г.Мілачэўскі. 17.XI. 1930".

Сама Ганна Пішчыкевіч не памятае роднага дзядзькі. Але па яе словах, як расказвала ёй мама, дамоў са Слоніма,

Гродна і Вільні Генрых прыязджаў з кнігамі, часопісамі і газетамі, альбо з калекцыямі розных старых рэчаў. Дарэчы, у фондах Гродзенскага Дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея знаходзіцца крамянёвы інвентар з ваколіц маёнка Антонава былога Слонімскага павета. Ён быў перададзены ў музей Генрыхам Мілачэўскім перад Другой сусветнай вайной і налічвае 28 адзінак. Той факт, што калекцыя складаецца толькі з крамянёвых прыладаў працы, сведчыць аб тым, што іх збіральнік валодаў пэўнымі археалагічнымі ведамі. Асноўная частка гэтых знаходак колькасна і тыпалагічна адносіцца да перыяду канца неаліту – пачатку бронзавага веку (другая палова III – першая палова II тысячагоддзя да нашай эры). І на сённяшні дзень гэта знаходка з’яўляецца каштоўнай у фондах Гродзенскага музея.

Перад пачаткам Першай сусветнай вайны Генрых закахаўся ў прыгожую яўрэечку са Слоніма. Ён прысвяціў ён шмат сваіх паэтычных строфаў. Але вайна і тагачасныя расійскія парадкі, выгналі сям’ю Мілачэўскіх у глыб Расіі. Пасля вяртання, спаткаць сваё першае каханне Генрых не змог. Ён пайшоў у прымы да багатай жанчыны, якая жыла на хутары Антонава. У іх нарадзілася дачка Галіна.

У канцы 1930-х гадоў Генрых Мілачэўскі моцна захварэў на цукровы дыябет. Яму аднялі нагу, а 3 лютага 1941 года паэта і археолага стала. Пахавалі яго на могілках вёскі Моўчадзь, цяпер гэта Баранавіцкі раён.





# Незабыўны Янка Саламевіч

31 ліпеня 2012 года не стала майго слыннага земляка са Слонімшчыны кандыдата філалагічных навук, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, вядомага беларускага энцыклапедыста, літаратуразнаўца Янкі Саламевіча. А за два гады да смерці ў 2010 годзе мы сустрэліся ў Мінску і доўга гутарылі пра родную вёску Івана Уладзіміравіча, пра яго сваякоў і сяброў, пра фальклор, календары, літаратуру – адным словам пра нашу Бацькаўшчыну. Без гэтай гутаркі мая кніга “Літаратурная Слонімшчына” была б няпоўнай і сумнай. Таму гутарку я вырашыў уключыць у кнігу.

**Пра вёску маленства**

*– Спадар Янка, некалі Уладзімір Караткевіч назваў вёску Кракотка Слонімскага раёна – самаю найпрыгажэйшай вёскай у Беларусі. Што звязвае Вас з Кракоткаю і з яе людзьмі, акрамя таго, што Вы адсюль родам?*

– Цяпер, на жаль, амаль нічога. Добра, што яшчэ можна спыніцца ў бацькавай хаце, дзе жыве мой брат Анатоль. Ведаеш, Сяргей, нездарма кажуць, што да роднай хаты няма далёкай

дарогі. У роднай вёсцы, дзе ты малым, некалі гуляў у розныя гульні (жмуркі, лапта, “у ножыка”, “гусі-гусі за гарой” і іншыя), пачуў першыя ў сваім жыцці песні (некалі баба Наталля, маціна маці, гайчукала нас на каленях і прыпявала: “Гоп, гоп, гопа-па, чорна срака у папа, а ў папіхі белая – поп за ёю бегая!”. Мне перарабілі ў “Дзіцячым фальклоры” сраку на морду і ўсё прапала), дзе босы хадзіў у лес па грыбы, часта пасвіў кароў, далучаючыся несвядома да нашай цудоўнай прыроды, на пашы, лежачы ў траве любіў слухаць песні жаваранкаў, калі яны маленечкімі кропачкамі завісалі ў небе, махалі крылцамі недзе высока-высока, што амаль не відаць было і выдавалі свае дзівосныя трэлі, яшчэ вучнем школы памагаў не толькі бацьку, а і калгасу касіць, хочацца прыехаць хоць на дзень.

*– І добра ўмееце касіць?*

– Дарэчы, усе хлопцы з нашай сям’і ўмеюць касіць. Гэта бацькава заслуга, ён нас навучыў, яму мы ўдзячныя за гэту навуку. У 1966 годзе, калі я 10 месяцаў знаходзіўся ў навуковай камандзіроўцы ў Польшчы, ездзіў на заходнія землі, каб наведаць меншага бацькавага брата – дзядзьку Сяргея. Пайшлі мы з дзядзькам на яго поле. Я ўзяў касу і пачаў шпарыць серадэлю, якую дзядзька хацеў скасіць. Ён разгубіўся, вочы вылупіў і кажа: “Янка, і ты касіць умееш, та ж мае хлопцы ні адзін не ўмее”. “Гэта вы вінаваты, – адказаў я яму, – думаеце, што ў калгасе мы нічога не ўмеем. Нашы хлопцы ўсе косяць – бацька навучыў”.

Наогул, калі пабываеш дома. Пабываеш там, дзе жыў у маленстве, як палякі кажуць, сельскім, анельскім, хопіш таго паветра, якім дыхаў некалі, адчуваеш тую біялагічную аўру, якая дабратворна ўплывае на цябе дасюль, душа растае, дух мацуецца роднымі сокамі, усё ў табе ажывае, нават родная гаворка, хоць хлопцы кажуць: “Ты гаворыш па-беларуску, а мы па-нашаму, па-кракоцкі”. Нездарма ёсць такое народнае пажаданне (люблю яго казаць маладым, я 36 разоў быў сватам на вяселлях): “Будзь здаровы, як зіма, вясёлы, як вясна, рабочы, як лета, багаты, як восень”. Усё ў ім праўда, усё выверана тысячагадовай практыкай і назіраннямі селяніна, рабочая менавіта на зямлі. Глядзіш, што чалавеку трэба найперш. Вядома ж, здароўе. Гэта калі малады, думаеш, калі

